# ЭРНСТ ТЭЛЬМАН

Эрнст Тэльман нарадзіўся ў 1886 годзе ў Германіі ў г. Гамбургу. Бацька Эрнста Іоганэс быў ламавым возчыкам.

Вучыцца Эрнст пачаў з вялікай ахвотай. Але вучыцца яму было вельмі цяжка. Увесь вольны ад школы час прыходзілася працаваць, каб дапамагчы бацькам зарабляць на хлеб. Не гледзячы на гэта, ён быў у школе лепшым вучнем.

Эрнст вельмі любіў чытаць кнігі. Часта цэлыя ночы праседжваў за кнігамі. Настаўнік пачатковай школы раіў старому Іоганэсу паслаць сына вучыцца далей у вышэйшую школу.

— Для гэтага патрэбны грошы,—уздыхаў бацька.

У чатырнаццаць год Эрнст пакідае дом, паступае вугальшчыкам на невялікі карабель і едзе ў Амерыку. У Амерыцы ён працуе батраком у багатага землеўласніка. Але з часам Эрнст убачыў, што і тут, у Амерыцы, так сама, як і ў Германіі, адны працуюць і жывуць бедна, а другія нічога не робяць і жывуць багата. У маладога батрака Эрнста расце класавая свядомасць, свядомасць барацьбіта за лепшае жыццё для працоўных.

Праз два гады ён вярнуўся ў Гамбург. У Гамбургу Тэльман праводзіць вялікую работу сярод транспартных рабочых. Імя Эрнста Тэльмана становіцца ўсё больш і больш вядомым.

У 1915 годзе Тэльман ідзе на фронт. Тут ён арганізуе салдат, вучыць іх, расказвае ім, што вайна патрэбна і карысна толькі буржуям.

Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя ў Расіі паказала Тэльману і яго таварышам той шлях, па якім яны павінны пайсці.

## ПРАВАДЫР

Эрнст Тэльман хутка становіцца правадыром германскай комуністычнай партыі. Ён стварае баявую арганізацыю германскага пролетарыята „Чырвоныя франтавікі“.



Буржуазія ненавідзіць Тэльмана. Яна называе яго чырвоным генералам. Але Тэльман упарта робіць сваю справу. Ён збірае сілы, арганізуе германскіх рабочых на барацьбу супроць фашыстаў.

— Прыдзе час, калі працоўныя Германіі загавораць з сваімі ворагамі па-руску, будуць змагацца па-руску і па-руску перамогуць,—кажа Тэльман.

## У ФАШЫСЦКАЙ ТУРМЕ

У 1932 годзе ў Германіі перамаглі фашысты. Комуністычная партыя Германіі вымушана была перайсці на падпольную работу. Азвярэлыя гітлераўскія фашысты люта распраўляюцца над комуністамі. Яны схапілі і кінулі ў турму Эрнста Тэльмана—лепшага сына германскага народа.

Вось ужо больш чатырох год пакутуе ў фашысцкай турме Эрнст Тэльман. Фашысты бязлітасна катуюць яго, здзекуюцца з яго. Але Тэльман астаецца цвёрдым і непераможным. Тэльман ведае, што справа яго не загіне. Рана ці позна фашысты будуць разбіты.

Ва ўсім свеце расце і шырыцца рух у абарону Тэльмана.

Свабоду Тэльману!—усё мацней і мацней раздаецца голас мільёнаў працоўных ва ўсім свеце.

Эрнст Тэльман павінен быць вырван з крывавых лап фашыстаў!



АПАВЯДАННЕ

**А. П. ЧЭХАВА**




# Белалобы

**Малюнкі В. ЦІХАНОВІЧА**

Галодная ваўчыха ўстала, каб ісці на паляванне. Яе ваўчаняты, усе трое, моцна спалі, збіўшыся ў кучу, і грэлі адно другое. Яна аблізала іх і пайшла.

Быў ужо вясновы месяц сакавік, але па начах дрэвы трашчалі ад холаду, як у снежні, і ледзь высунеш язык, як яго пачынала моцна шчыпаць. Ваўчыха была слабога здароўя, труслівая; яна ўздрыгвала ад самага нязначнага шуму і ўсё думала аб тым, каб хаця дома без яе ніхто не пакрыўдзіў ваўчанят. Пах чалавечых і конскіх слядоў, пні, складзеныя дровы і цёмная ўгноеная дарога палохалі яе; ёй здавалася, нібы за дровамі ў цемені стаяць людзі і дзесьці за лесам выюць сабакі.

Яна была ўжо не маладая, і чуццё ў яе аслабла, так што, здаралася, лісіны след яна прымала за сабачы і іншы раз нават, падманутая чуццём, збівалася з дарогі, чаго з ёй ніколі не здаралася ў маладосці. Па слабасці здароўя яна ўжо не палявала на цялят і вялікіх бараноў, як раней, і ўжо далёка абыходзіла коней з жарабятамі, а кармілася адной здыхляцінай; свежае мяса ёй даводзілася есці вельмі рэдка, толькі вясною, калі яна, натрапіўшы на зайчыху, адбірала ў яе дзяцей, альбо залазіла ў хлеў, дзе былі ягняты.

Вярсты за чатыры ад яе лагавішча, ля паштовай дарогі, стаяла зімоўе. Тут жыў стораж Ігнась, дзед гадоў сямідзесяці, які ўсё кашляў і гутарыў сам з сабою; звычайна ўночы ён спаў, а ўдзень цягаўся па лесе з стрэльбай-аднастволкай і пасвістваў на зайцоў. Мабыць, раней ён служыў механікам, таму што кожны раз, раней чым спыніцца, крычаў сабе: „Стой, машына!“ і раней чым пайсці далей: „Поўны ход!“ У яго быў велізарны чорны сабака невядомай пароды, па клічцы Арапка. Калі ён забягаў далека ўперад, дык дзед крычаў яму: „Задні ход!“ Часамі ён спяваў і пры гэтым вельмі хістаўся, і часта падаў (ваўчыха думала, што гэта ад ветру) і крычаў: „Сышоў з рэек!“

Ваўчыха памятала, што ўлетку і ўвосень каля зімоўя пасвіліся баран і дзве авечкі, і калі яна не так даўно прабягала сюдой, дык ёй пачулася, нібы ў хлеве бляялі. І зараз, падыходзячы да зімоўя, яна думала аб тым, што ўжо сакавік і, мяркуючы па часу, у хлеве павінны быць ягняты абавязкова. Яе мучыў голад, яна думала аб тым, з якой прагнасцю яна будзе есці ягнё, і ад такіх думак зубы ў яе ляскалі і вочы гарэлі ў цемені, як два агеньчыкі.

Хата Ігнасёва, яго гумно, хлеў і студня былі акружаны высокімі гурбамі. Было ціха. Арапка, мабыць, спаў пад гумном.

По гурбе ваўчыха ўзлезла на хлеў і стала разгрэбваць лапамі і мордай саламяную

страху. Салома была гнілая і нямоцная, так што ваўчыха ледзь не правалілася; на яе раптам проста ў морду шуганула цёплай парай і пахам гною і авечага малака. Унізе, адчуўшы холад, забляяла ягнё. Скокнуўшы ў дзірку, ваўчыха ўпала пярэднімі лапамі і грудзьмі на нешта мяккае і цёплае, мабыць, на барана, і ў гэты час у хлеве нешта раптам заскавытала, забрахала і залілося тонкім, падвываючым галаском, авечкі рынуліся да сцяны, і ваўчыха, напалохаўшыся, схапіла, што першае трапілася ў зубы, ды кінулася прэч...

Яна бегла з усяе сілы, а ў гэты час Арапка, які пачуў ужо ваўка, нема выў, кудахталі ў зімоўі патрывожаныя куры, і Ігнась, вышаўшы на ганак, крычаў:

— Поўны ход! Пайшоў к свістку!

І свістаў, як машына і пасля—го-го-го-го!.. І ўвесь гэты шум паўтарала лесавое рэха.

Калі паступова ўсё гэта сціхла, ваўчыха супакоілася крыху і стала заўважаць, што яе здабыча, якую яна трымала ў зубах і валакла па снягу, была цяжэйшай і нібы цвярдзейшай, чым звычайна бываюць у гэты час ягняты; і пахла нібы інакш, і чуліся нейкія дзіўныя гукі... Ваўчыха спынілася і палажыла сваю здабычу на снег, каб перадыхнуць і пачаць есці, і раптам адскочыла з агідай. Гэта было не ягнё, а шчанё, чорнае, з вялікай галавою і на высокіх нагах, буйнай пароды, з такой-жа белаю плямай на ўвесь лоб, як у Арапкі. Мяркуючы па манерах, гэта было звычайнае простае шчанё. Яно аблізала шэрсць на сваёй пакамечанай, параненай спіне і, нібы нічога і не здарылася, замахала хвастом і забрахала на ваўчыху. Ваўчыха зарычэла, як сабака, і пабегла ад яго. Яно за ёю. Яна аглянулася і ляснула зубамі; яно спынілася ў недаўменні і напэўна парашыўшы, што гэта яна гуляе з ім, выцягнула морду ў напрамку да зімоўя і залілося звонкім радасным брэхам, нібы запрашаючы Арапку пагуляць з ім і з ваўчыхай.

Ужо развіднела, і калі ваўчыха ішла да сябе праз густы асіннік, дык была відаць выразна кожная асінка, і ўжо прачыналіся цецярукі і часта ўспырхвалі прыгожыя пеўні, занепакоеныя неасцярожнымі скачкамі і брэхам шчанёці.

„Чаго гэта яно бяжыць за мною?—думала ваўчыха са злосцю.—Мабыць, яно хоча, каб я яго з'ела".

Жыла яна з ваўчанятамі ў неглыбокай яме; гадоў тры назад у часе вялікай навальніцы вывернула з коранем высокую старую хвою, ад чаго і зрабілася гэта яма. Цяпер на дне ямы было старое лісцё і мох, тут-жа валяліся косці і бычачыя рогі, якімі забаўляліся ваўчаняты. Яны ўжо прачнуліся і ўсе трое, вельмі падобныя адно на другое, стаялі побач на краі сваёй ямы і, гледзячы на матку, якая варочалася да іх, махалі хвастамі. Убачыўшы іх, шчанё спынілася здалёк і доўга глядзела на іх; заўважыўшы, што яны таксама ўважліва глядзяць на яго, яно стала брахаць на іх злосна, як на чужых.

Ужо развіднелася, і ўзышло сонца, заіскрыўся навокала снег, а яно ўсё стаяла здалёк і брахала. Ваўчаняты ссалі сваю маці, штурхаючы яе лапамі ў галодны жывот, а яна ў гэты час грызла конскую костку, белую і сухую; яе мучыў голад, галава разбалелася ад сабачага брэху, і хацелася ёй кінуцца на няпрошанага гасця і разарваць яго.

Нарэшце шчанё стамілася і ахрыпла; бачачы, што яго не баяцца і нават не звяртаюць на яго ўвагі, яно стала нясмела, то прысядаючы, то падскокваючы падыходзіць да ваўчанят. Цяпер, пры дзённым святле, лёгка ўжо было разглядзець яго... белы лоб у яго быў вялікі, а на ілбу выступ, які бывае ў вельмі дурных сабак; вочы былі маленькія, блакітныя, цмяныя, а выгляд усёй морды незвычайна брыдкі. Падышоўшы да ваўча-



*Шчанё стукнула лапай адно ваўчанё па вялікай галаве.*
*Ваўчанё таксама стукнула яго лапай па галаве.*

нят, яно працягнула ўперад шырокія лапы, палажыла на іх морду і пачало:

— Мня, мня... нга-нга-нга!..

Ваўчаняты нічога не зразумелі, але замахалі хвастамі. Тады шчанё стукнула лапай адно ваўчанё па вялікай галаве. Ваўчанё таксама стукнула яго лапай па галаве. Шчанё стала да яго бокам і глянула на яго коса, памахваючы хвастом, потым раптам рванулася з месца і зрабіла некалькі кругоў па снягу. Ваўчаняты пабеглі за ім, яно ўпала на спіну і задрала ўверх ногі, а яны ўтраіх напалі на яго і, скавычучы ад радасці, сталі кусаць яго, але не балюча, а жартам.

Вароны сядзелі на высокай хвоі і глядзелі зверху на іхнюю бойку і вельмі непакоіліся. Стала шумна і весела. Сонца ўжо прыпякала па-веснавому; і пеўні, якія разпо-раз пералятаклі праз хвою, паваленую навальніцаю, пры водблісках сонца здаваліся ізумруднымі.

Звычайна ваўчыхі прывучаюць сваіх дзяцей к паляванню, даючы ім пазабаўляцца здабычай; і цяпер, гледзячы, як ваўчаняты ганяліся па снягу за шчанём і барукаліся з ім, ваўчыха думала:

„Няхай прывучаюцца“.

Нагуляўшыся, ваўчаняты пайшлі ў яму і ляглі спаць. Шчанё павыла крыху з голаду, потым таксама выцягнулася на сонейку. А прачнуўшыся, зноў сталі забаўляцца.

Увесь дзень і вечар ваўчыха ўспаміналага, як у мінулую ноч у хлеве бляяла ягнё і як пахла авечым малаком, і ад гэтых успамінаў яна ўсё ляскала зубамі і не пакідала грызці з прагнасцю старую костку, уяўляючы сабе, што гэта ягнё. Ваўчаняты ссалі, а шчанё, якое хацела есці, бегала навокал і нюхала снег.

„З‘ем хіба яго...“—парашыла ваўчыха.

Яна падышла да яго, а яно лізнула яе ў морду і заскавытала, думаючы, што яна хоча гуляць з ім. Раней яна бывала ела сабак, але ад шчанёці вельмі пахла псінаю, і, па слабасці здароўя, яна ўжо не магла цярпець гэтага паху; ёй стала агідна, і яна адышлася прэч...

Увечары стала халадней. Шчанё засумавала і пайшло дамоў. Калі ваўчаняты моцна заснулі, ваўчыха зноў пайшла шукаць здабычы. Як і ў мінулую ноч, яна баялася самага нязначнага шуму, і яе палохалі пні, дровы, цёмныя, адзінокія кусты ядлоўцу, здалёк падобныя на людзей. Яна бегла збоку ад дарогі, па цаліку.

Раптам далёка спераду па дарозе замільгала нешта цёмнае... Яна прыгледзелася і прыслухалася яшчэ лепш: сапраўды, нешта ішло спераду, і нават чутны былі роўныя шагі. Ці не барсук? Яна асцярожна, ледзь дыхаючы, бокам выперадзіла цёмную пляму, аглянулася на яе і пазнала. Гэта, не спяшаючыся, шагам, варочалася да сябе ў зімоўе шчанё з белым ілбом.

„Хаця каб яно зноў мне не перашкодзіла“,—падумала ваўчыха і хутка пабегла ўперад.

Але зімоўе было ўжо блізка. Яна зноў узлезла на хлеў па гурбе. Учарашняя дзірка была ўжо залатана яравой саломаю і на страсе ляжалі дзве новыя жэрдкі. Ваўчыха стала хутка разграбаць страху нагамі і мордаю, азіраючыся, ці не ідзе шчанё, але толькі шуганула на яе цёплай параю і пахам гною, як ззаду пачуўся радасны брэх. Гэта вярнулася шчанё. Яно скокнула да ваўчыхі на страху, потым у дзірку і, адчуўшы сябе дома, у цяпле, пазнаўшы сваіх авец, забрахала яшчэ мацней... Арапка прачнуўся пад гумном і, пачуўшы ваўка, завыў, закудахкалі куры і, калі на ганку паказаўся Ігнась са сваёй аднастволкай, дык перапалоханая ваўчыха была ўжо далёка ад зімоўя.

— Фюйць!—засвістаў Ігнась.—Фюйць! Гані на ўсю пару!

Ён спусціў курок—стрэльба дала асечку; ён спусціў яшчэ раз—зноў асечка; ён спу-

сціў трэці раз—і велізарны вогненны сноп вылецеў са ствала, і грымнула аглушальнае „бу! бу!“ Яму моцна аддало ў плячо; і ўзяўшы ў адну руку стрэльбу, а ў другую сякеру, ён пайшоў паглядзець, што за шум...

Крыху счакаўшы, ён вярнуўся ў хату.

— Што там?—запытаўся ахрыплым голасам падарожны, які начаваў у яго ў гэтую ноч і быў разбуджаны шумам.

— Нічога...—адказаў Ігнась.—Пустая справа. Унадзіўся наш Белалобы з авечкамі спаць, у цяпле. Толькі няма таго розуму, каб гэта ды ў дзверы, а наровіць усё, каб праз страху. Учарашняй ноччу разабраў страху і гуляць пайшоў, недавярак, а цяпер вярнуўся і зноў разбурыў страху.

— Дурны.

— Але, пружына ў галаве лопнула. Страх не люблю дурных!—уздыхнуў Ігнась, узлазячы на печ.—Ну, божы чалавек, рана яшчэ ўставаць, давай спаць поўным ходам...



А раніцай ён паклікаў да сябе Белалобага, моцна выдраў яго за вушы і потым, б'ючы яго дубцом, усё прыгаварваў:

— Хадзі праз дзверы! Хадзі праз дзверы! Хадзі праз дзверы!

# ЗЛОСНАЯ КАРОВА

Было гэта не так даўно. Сын Быкава Восіпа Ільюшка пайшоў у хлеў паглядзець цяля, якое толькі што нарадзілася. Але карова накінулася на яго і прыціснула рагамі да сцяны. Ільюшка пачаў крычаць. На крык прыбегла старэйшая сястра Ганна. Яна стала бараніць брата і ўхапіла карову за рогі. Але карова паваліла яе на зямлю.

Праз хвіліну ў хлеў прыбегла матка і стала бараніць дзяцей. Карова накінулася і на матку. Яна думала, што ў яе хочуць адабраць цяля. Матка не дала рады карове.

Нарэшце на іх крык прыбег сам гаспадар Быкаў Восіп і пачаў біць карову палкай. Толькі пасля гэтага ўдалося выгнаць карову з хлява і вызваліць дзяцей і матку.

Параненага Ільюшку прынеслі ў хату.

Вучні: **ЛЯЎШУК А.**
**РАБЦАЎ В.**
**БЫКАЎ Я.**

*Вёска Ломск, Крупскага раёна.*




Апавяданне ЯЗ. ГЕРАСІМОВІЧА
Малюнкі І. РОЗАНАВА

*З жыцця старой школы.*

## I

Малы Міхась першы раз даведаўся пра школу ад свайго старэйшага брата Юзіка.

— Што там у школе робяць?—запытаў ён.

— Вучацца чытаць, пісаць, богу маліцца, задачкі рашаць.

— А яшчэ што?

— Больш нічога. У школе ёсць настаўнік, ён вучыць нас. Настаўніка ўсе баяцца. Ён б‘е хлопцаў лінейкаю, ставіць на калені і лаецца.

— І мяне будзе біць?

— І табе хопіць. Няма таго вучня, каб настаўнік не біў.

Міхась глыбока задумаўся. Звесткі Юзіка напалохалі яго, і калі праз два тыдні пасля гэтага настаў час ісці ў школу, ён закалаціўся ад страху.

Настаўнік пасадзіў Міхася поруч з рухавым і вясёлым хлопцам Васілём. Васіль— здольны хлопец, ён добра вучыцца, але настаўнік яго не любіць. Васіль нязграбна вітаецца з настаўнікам, адмаўляецца хадзіць у царкву і не паважае бацюшкі. Ён не баіцца бярозавай лінейкі, якою настаўнік б‘е яго па руках і па галаве, звыкла становіцца на калені і ніколі не плача, калі разгневаны настаўнік тармосіць яго за валасы і моцна круціць за вушы.

Васіль жартуе з Міхася і смяецца, калі той пры набліжэнні настаўніка чырванее і калоціцца ад страху.

Кожную раніцу, перад пачаткам заняткаў, вучні разам з настаўнікам становяцца на малітву. Чытаюць малітву па чарзе вучні старэйшага класа. Усе астатнія павінны маўкліва і нерухома стаяць, час ад часу хрысціцца і пазіраць уважліва на абраз, павешаны на куце класнага пакою.

Цяжка стаяць Васілю на малітве, сумна яму пазіраць, не зводзячы вачэй на абраз божае маткі. Кожны дзень перад вачыма гэты самы абраз, кожны дзень тыя самыя мёртвыя, нецікавыя словы малітвы! Урэшце ён не можа стрымацца. Яго рукі пачынаюць варушыцца ва ўсе бакі. Ён тузануў за рубашку Сымона, ушчыпнуў Адама, паказаў язык Зосі. Міхась хоча супакоіць яго, штур-

хае ў бок. Тады Васіль зварачаецца да Міхася і шэпча яму на вуха:

— У цябе ў кішэні прэжаны гарох? Дай мне гароху.

Міхась маўчыць, робіць выгляд, што не чуе і набожна пазірае на абраз.

— Дай! дай, скнара!—шэпча Васіль і пачынае казытаць яго тонкімі пальцамі пад лапаткаю. Ён добра ведае, што Міхась баіцца козыту.

Міхася душыць шалёны смех, ён ужо адчувае, што траціць самаўладанне. Васіль задаволены, і яшчэ мацней казыча яго. Урэшце Міхась не вытрымаў і моцна, дзікім голасам, зарагатаў на ўвесь клас.

У класе раптам настала напружаная цішыня. Нават вучань, які голасна чытаў малітву, змоўк. Погляды ўсіх спыніліся на Міхасю. Ён стаяў прыніжаны, ахоплены пачуццём бязмежнага страху. Міхасю здавалася, што ён падае ў глыбокае, цёмнае бяздонне, а следам за ім насоўваецца нешта страшнае, як здань, хапае за горла, сціскае грудзі...

Тым часам настаўнік, разгладзіўшы сваю рыжую бараду, падышоў да Міхася. Твар яго перакасіўся ад злосці, звіслыя вусы натапырыліся, у вачах мільганула нездаваленне. Ён схапіў Міхася за вуха, закруціў, тузануў да сябе і два разы выцяў па твары.

Міхась усхліпнуў ад пякучага болю і буйныя слёзы градам пакаціліся з яго вачэй.

— Ціха, балван! Ступай на калені!—закрычаў настаўнік. Ён схапіў Міхася за каўнер, выцягнуў з-за скамейкі і моцна штурхануў да сцяны. Міхась пакорна стаў на калені, апусціўшы ўніз галаву.

Тры даўгіх гадзіны стаяў ён на каленях. Ныла сярэдзіна, анямелі ногі. У канцы трэцяга перапынку зазвінеў званок, у клас увайшоў настаўнік. Міхась узняў на яго сумныя вочы, распухшыя ад слёз. Настаўнік разгладзіў пальцамі пушыстыя вусы, зірнуў на Міхася і запытаў:

— Ну, парасё нямытае, будзеш больш смяяцца на малітве?

Міхась апусціў галаву, глыбока ўздыхнуў і адказаў:

— Не, пан настаўнік.

— Устань!—коратка і суха загадаў настаўнік.

Міхась устаў і нерашуча таптаўся на месцы, паціраючы здзеравянеўшыя калені.

— Цяпер хадзі сюды і скажы мне шчыра, чаго ты смяяўся?

Міхась маўчаў.

— Ну, ты чуеш, нягоднік? Кажы, чаго ты смяяўся?

— Так... смешна было.



*— Што-ж гэта ты, пакаранне адбываеш?*



*Васіль нерашуча выставіў далонь правай рукі.*

— Не скажаш? Забыўся? Добра! Станавіся зноў на калені, а пасля ўрокаў застанешся на дзве гадзіны без абеда. Спадзяюся, што пасля гэтага скажаш.—Міхась апусціўся на калені. Марудна і доўга праходзіў час. Апошнія гадзіны Міхась ужо, не гледзячы на страх перад пакараннем, не мог стаяць на каленях, як гэта належыць, і час ад часу садзіўся на свае анямелыя ногі.

Урокі скончыліся досыць позна. Усе вучні разышліся дамоў. Настаўнік пайшоў адпачываць, а Міхась, сумны і маўклівы, астаўся ў класе адзін. Праз дзве гадзіны Міхась, седзячы ля акна, чакаў прыходу настаўніка, які дазволіць яму ісці дамоў. Ужо змерклася, але настаўнік не прыходзіў. Замест яго ў клас увайшоў сторaж і запытаў:

— Што-ж гэта ты, мой каток, пакаранне адбываеш?

— Чакаю настаўніка, каб пусціў дадому.

— І не дачакаешся ты яго. На хутар паехаў, у госці, а прыедзе, мабыць, позна ўночы. Ідзі сабе, годзе табе тут марынавацца, а то я зараз падлогу буду мыць, а пасля замкну школу.

Узрадаваны Міхась схапіў буквар і хутка выбег на двор. На вуліцы яго сустрэў Васіль. Ён схапіў Міхася за руку і ўсхвалявана запытаў:

— Ну, сказаў пра мяне настаўніку?

— Ды не, я не сказаў і казаць не буду.

— Маладзец! будзем сябрамі,—сказаў Васіль і прыветна засмяяўся

## II

На другі дзень вучні сабраліся ў школу роўна ў дзевяць гадзін. Пасля малітвы яны селі за скамейкі. Настаўнік запісваў штосьці ў класным журнале. Міхась з-пад ілба сачыў за настаўнікам. Ён баяўся, што настаў-

нік яшчэ памятае ўчарашняе здарэнне і можа зноў прыстане да яго з непрыемнымі пытаннямі.

У той час, калі настаўнік загарнуў журнал і збіраўся распачаць заняткі, з-за скамейкі ўзняўся вучань старэйшага класа Вінцэсь Пугачэвіч. Гэта быў прысадзісты, здаровы хлопец—сын валаснога старшыні.

— Пан настаўнік, я хачу вам сказаць,— пачаў нерашуча Вінцэсь, азірнуўшыся на Васіля.

— Ну, ну?—запытаў настаўнік.

— Я ведаю, чаму ўчора на малітве смяяўся Міхась Смык. Ён смяяўся таму, што яго казытаў Васіль Абушок. Пра гэта ведае ўжо і бацюшка—айцец Гаўрыіл. Ён сказаў, што гэты распуснік Васіль таксама павінен быць пакараны.

Настаўнік з хвіліну моўчкі хадзіў моцна ўсхваляваны. Урэшце спыніўся і сеў за стол. Увесь клас апанавала напружаная цішыня. Цікавасць і страх авалодалі вучнямі. Яны прадбачылі суровае пакаранне вінаватых.

Настаўнік глянуў на Васіля, а пасля на Міхася і сказаў:

— Хадзіце сюды!

Хлопцы ў роспачы падышлі да стала.

Настаўнік працяў Васіля калючым поглядам і запытаў:

— Кажы, мярзотнік, гэта ты ўчора на малітве дазваляў сабе непрыстойныя паводзіны?

— Я, пан настаўнік.

— Ты?!

Настаўнік раптам усхапіўся і адвёў назад руку. Звонкія аплявухі пасыпаліся на ахоплены жахам твар Васіля. Ён захістаўся як п'яны і ледзь утрымаўся на нагах.

— Ну, скаціна, ці будзеш больш дурэць на малітве? — прахрыпеў настаўнік, беручы ў рукі лінейку.



— Не, пан настаўнік, ніколі.

— Будзеш?

— Не, не, пан нас...

— Маўчаць! Лапу!—загрымеў настаўнік.

Васіль нерашуча і баязліва выставіў далонь правай рукі. Настаўнік адступіўся назад і спрытна ўзмахнуў лінейкай вышэй галавы. Лінейка свіснула ў паветры і, гладка апусціўшыся ўніз, звонкім ударам апякла Васілёву руку.

— Трымай другую!

Ляснуў другі, здавалася, мацнейшы ўдар па руцэ Васіля. Васіль хутка рвануў да сябе руку і прыціснуў да грудзей. Ні адной слязінкі на яго твары не заўважыў настаўнік. Ён бразнуў лінейку на стол.

Васіль павярнуўся і сустрэў наглы, заліты вясёлай усмешкай твар Вінцэся.

— Скаты! Мярзотнікі!—закрычаў настаўнік.—Досыць з вамі валаводзіцца! Вон са школы! Давайце сюды вашы кнігі!.. Вон! Цяпер ганяйце сабак па завуголлю.

Настаўнік адчыніў дзверы і выштурхнуў хлопцаў на вуліцу. Пакрыўджаныя хлопцы маўкліва і нерашуча спыніліся каля брамы. Яны азірнуліся назад. Над дзвярамі школьнага будынка вісела шыльда з надпісам: „Новоселковское народное училище“. Міхась зірнуў на шыльду і ўспомніў сваю матку—бедную ўдаву, якая так радавалася, што яе сын скончыць школу і стане пісьменным чалавекам.

Цяпер дзверы школы перад ім шчыльна зачыніліся назаўсёды. Надзеі маткі не апраўдаліся, ён застанецца непісьменным.

Роспач і жаль апанавалі Васіля, буйныя слёзы паказаліся з вачэй і ён першы раз за ўвесь час наведвання школы горка заплакаў.




**ВЛАДЗІМІР МАЯКОЎСКІ**

Бацьку
сын цвярдзіў раз трыста,
паўтараючы штодня:
—Я расту кавалерыстам.
Падавай ты мне каня!—
Аб чым-жа доўга разважаць?
У краме
лялек
многа вам,
І вось яны
ідуць купляць
Каня чацвераногага.
У краме ім
такі адказ:
— Няма каней сягоння ў нас.
Але майстар
незадоўга
Зробіць вам
каня любога.
Вось і майстар. Кажа ён:
— Трэба
нам
дастаць картон.
Цела конікаў падобных
Робяць, хлопча мой, з картону.
Без лішніх слоў, яны адразу
Ідуць на фабрыку ўсе разам.
Рабочы ў іх пытацца стаў:
— Вам тоўсты
або тонкі?
А запытаўшы,
ён падаў
Тры чысценькіх картонкі.
— Між іншым,
наце вам і клей,
Каб склеіць—
клей налей.—
Той хто ездзіў,
знае сам:
Не язда без каляса.
Вось яны у сталяра.
Ім сталяр, канешне, рад.
Хутка,
роўна, а не крыва
Нарабіў сталяр калёсікаў.
Ёсць калёсы,
няма грывы,
На хвасце
няма валосікаў.
— Дзе-ж тут конскі хвост
знайсці нам?



Там,
дзе шчоткі і шчацінне.
Шчаціншчык адмаўляць не
стаў,—
Каб вышаў конь на-дзіва,
даў
конскі волас
для хваста,
Таксама і для грывы.
Рады ўсе. Ідуць дамоў,
ды успомнілі—
цвікоў
не хапае ім яшчэ.
К кавалю бягуць хутчэй.
Іх каваль страчае з ласкай:
— Вось цвікі вам,
калі ласка!
Перш чым за работу селі,
Усе тавары аглядзелі.
І ў адзін сказалі голас:
— Мала ўзяць картон і волас.
Выйдзе конік бедны,
Невясёлы, бледны.
Каб зрабіць яго прыгожым,—
Мастака
паклікаць можам.
І к мастаку,
як лёгкі ліст,
Ляціць малы кавалерыст.
— Таварыш,
ласкаў будзьце,
Каня мне пафарбуйце!
Мастак тут без адмовы
Узяў фарбаў каляровых,
І вышаў ён з ахвотай
Зрабіць сваю работу.
Работа закіпела.
Каню зрабілі цела.
Кампанія ўсю рэшту дня
Дарэмна не драмала
І майстраваць пайшла каня
З найлепшых матар'ялаў.
Важнай ўсе заняты справай,—
Рэжуць ліст картону жвава,
Клеем ліст наскрозь змачылі,
Капыты каню зрабілі.
Шчаціншчык зладзіў грыву,
Прыгожую на-дзіва,
Сталяр калёсы адстругаў,
Цвікі каваль паубіваў.
Мастак уважна, моўчкі



Каню
малюе вочкі.
Што за дзіва
гэты конь—
Гарачэйшы за агонь!
І ляціць ён
хоць куды
І у рысь, і у скок.
Лакам ззяюць капыты.
У жоўтых яблыках бок.
Добра асядланы,
Моцна заляйцаны.
На спіну картоннаму—
Памагай Будзённаму!

**Малюнкі К. ГЕДДА.**

Пераклад **А. Я.**





# КАЛІТАЧКА

### УКРАІНСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

Жылі сабе дзед і баба. І была ў іх курачка рабая і пара старэнькіх валоў. Вось гэта і была ўся іхняя гаспадарка. Нават воза не было, няма на чым на поле ці на рынак паехаць.

Добра, што хоць у суседа воз быў. Затое не было ў яго ні каня, ні валоў. І вось, калі трэба было куды ехаць, дык або дзед ішоў да суседа і пазычаў у яго воза, або сусед ішоў да дзеда і пазычаў у яго валоў.

Абодва былі бедныя, у абодвых недастаткі. Каб так вось адзін аднаму дапамагалі, то адзін-бы аднаго і з бяды выцягалі: дзедваламі, а сусед—вазамі. Каб так разам жылі, можа-б і гаспадарку сабе нажылі! Дык дзе-ж там!

Прычапілася баба да дзеда: і стары ты, і дурны ты, і да работы не здатны! Пазычаеш валоў суседу, ён на іх ездзіць, а мы іх гадуем! Яму, бач, свайго воза гадаваць не трэба! Вядзі нашых валоў на кірмаш, ды хоць прадавай, хоць на каня з возам мяняй!

Паслухаўся дзед бабы, палыгаў валоў і павёў.

Вядзе дзед валоў шляхам, вядзе; зараз да горада дойдзе, ажно, бачыць, насустрач дзядзька з каровай ідзе.

Прывіталіся. Пагутарылі.

Паскардзіўся дзеду дзядзька, што памерла ў яго жонка-гаспадыня, што няма каму кароўкі даглядаць, што цяпер даводзіцца весці яе прадаваць, што калі-б ён замест каровы пару валоў трымаў, дык і гора-б не знаў!



— Давай,—кажа дзеду дзядзька,—тваіх валоў на маю карову мяняць!

Падумаў, падумаў дзед, пачухаў патыліцу, а потым і кажа:

— Давай!

„Ну,—думае сам сабе,—калі баба каровы не захоча і будзе лаяць, то прадам карову і куплю каня, а воз як-небудзь набуду“.

І толькі ён гэта падумаў, як едзе верхам на кані хлапец.

Прывіталіся. Закурылі. Разгаварыліся.

Хлапец кажа, што едзе да бацькі ў горад, бо на кірмашы бацька хоча каня прадаць, а потым адразу карову купляць.

Тут дзед аж падскочыў! Ці чакаць, пакуль баба за корову вылае, ці лепш адразу карову на каня памяняць? Мабыць, адразу лепш!

— А, давай адразу, хлопча, твайго каня,—кажа дзед,—ды бяры маю карову. Вось твайму бацьку і не трэба будзе каня прадаваць і на якую іншую карову мяняць!

Згаварыліся. Прышлі да згоды. І абое задаволеныя разышліся.

Сеў дзед верхам, едзе. А конь усё нешта бокам налягае і нібы на ногу прыпадае. Глянуў дзед, адно-ж у каня паўкапыта нехапае. Спалохаўся дзед, з каня злез. Гняце яго дасада аж да слёз.

Страшна дзеду дадому вяртацца, ды няма куды дзявацца, трэба ехаць. Патупаў далей.

Тым часам насустрач гоніць цётка свінню. Глянуў дзед на сытую свінню, аж каўбасой запахла.

„Ну,—думае дзед,—прыганю гэтакую свінню ў двор, дзе тады дзенецца бабін гнеў?





Няхай,—скажу бабе,—свіння парасят навядзе, гэта-ж любата: будзе і сала, і мяса, і каўбаса“... Дзед аж сліну глытае!

— Цётка, га, цётка,—крычыць дзед,—куды гэта ты гоніш свінню?

— На кірмаш! Мушу прадаць і брату грошы за каня аддаць.

— А ты, цётка, каня ўжо купіла?

— Купіць не купіла, але азадачыла.

— Дык давай лепш тваю свінню на майго каня мяняць, тады і не трэба будзе даплаты даваць!

Баба аж смяецца—узрадавалася. Каня адразу за аброць схапіла.

Гоніць дзед свінню, гоніць, дубцом б‘е, а свіння і з месца не зварухнецца.

— Аўсь, каб на цябе ліха,—крычыць дзед,— гэтак ідучы, мы не паспеем і на абед!

Гнаў, гнаў дзед свінню, аж чупрыну запарыў, раззлаваўся і сеў. А потым зірнуў дзед, свіння ўжо і ляжыць.

— Вось дык назолу сабе выменяў!—аж за галаву хапаецца дзед.—Ну што мне цяпер з ёю рабіць?

А з-за лесу выткнуўся дзядзька, спявае і перад сабою гоніць беленькую авечку, прутам падганяе.

Дзеда аж за сэрца схапіла.

Падышоў дзядзька, прывітаўся. Сеў. Выняў люльку, закурыў.

Разгаварыліся.

Дзед траха не плача: у дзядзькі авечка скача, а яго свіння толькі ляжыць і ніяк яе не ўзварушыць.

„Ой,—думае дзед,—каб гэта мне такую авечку мець, чаго-б тады хацець. Няхай

баба хоць лае, хоць б'е, але затое колькі цёплых рукавіц наробіць!“

Аж адлягло ў дзеда ад сэрца.

— Дзядзька, а ці не памяняў-бы ты сваю авечку на гэту сытую свінню без спрэчкі? Гэта яна толькі адпачыць лягла, а калі захоча, то выперадзіць і каня.



— Вось як!—засмяяўся сам сабе дзядзька ў кулак.—Няхай будзе хоць і так!

Памяняліся.

Гоніць дзед авечку, цешыцца. Толькі ісці за ёю ніяк не справіцца.

Авечка скача, гайсае, а ў дзеда ўжо і сілы нехапае. Баіцца дзед, што дадому авечку не загоніць, што можа яна дзе ў дарозе ўцячэ.

Бег дзед трушком за ёю, аж упаў, траха сабе ногі не паламаў. Кінуў шапку аб землю і вылаяўся, гэтак натаміўся.

— Стой,—мармыча дзед сабе пад нос,— няхай толькі злаўлю цябе, заразу, тады на што іншае прамяняю адразу!

І толькі сказаў, як ідзе дарогаю таксама стары дзед, чыкіляе і пад світкаю гусака трымае.

Нашага дзеда зайдрасць апанавала. Бегаць за авечкаю сілы не хапала.

Ідзе ён да таго дзеда, нават пра гусака не пытае, а хутчэй сваю авечку аддаць хоча. Лепш ужо хоць гусака прынесці дадому, як з пустымі рукамі да бабы вярнуцца.

Ну, крывога дзеда прасіць не давялося: куды-ж там, за гусака авечку выменяў! Ідзе наш дзед, хоць сам сабе і не рад, дадому завіхаецца: і намучыўся, і натаміўся, і гневу бабінага баіцца.

„Ну, думае, цяпер ужо што будзе, то будзе! Прынясу бабе гусака!“

Дзед ідзе, гусака нясе. Гусак падпахаю спакойна сядзіць. Глянуў дзед, насустрач яму дзяўчынка бяжыць.

— Добры дзень, дзядуня! Дзе былі? І дзе такога гусака сабе знайшлі?

— Знайшоў там, дзе і не шукаў. Пару валоў на гэтага гусака прамяняў!

— Ой, калі так, то прамяняйце вашага гусака на майго пеўніка! Гляньце, які маладзенькі, харошанькі!

„А што-ж,—думае дзед;—сапраўды ў нас на ўсю гаспадарку адна курачка рабая, а калі-б яшчэ і пеўнік, была-б ёй пара!

Памяняліся.

Узяў дзед пеўня, да сябе прыгарнуў і ў сваю вуліцу накіраваўся.

Вось ужо відаць і таполі каля дзедавай хаты! Але тут певень як вырвецца ды наўцёкі! Дзед за ім. Певень крычыць, дзед бяжыць, сабакі брэшуць! А тут як выскачыць Лыска з суседняга двара—ды на дзеда! Дзед спалохаўся, за камень зачапіўся і на дарозе паваліўся. Пакуль ён уставаў і на лысую галаву шапку надзяваў, певень уцёк і невядома дзе знік.

Стаіць дзед каля дарогі, ад Лыскі абараняецца, калі глянуў— бачыць нешта на дарозе валяецца.

Падышоў дзед, падняў, ажно гэта старая дзіравая калітачка.

Схіліўся дзед, стаіць, на сваю знахадку сумна глядзіць. Каму і на што патрэбна яна, гэта старая калітачка?

Гэта табе, дзед, кара, каб не мяняўся. Бо сам цяпер бачыш — дурнем застаўся.



Малюнкі А. ВОЛКАВА




## АПАВЯДАННЕ РЫБАКА

Малюнак **В. ЦІХАНОВІЧА**

Рыбы ў нашай рэчцы многа:
Галаўні, самы, язі,
Шчупакі, ліні. Наогул,
Рыбы проста, як гразі.

А рыбак я быў удалы:
Нанач вуды закідаў.
І не раз, скажу, бывала,
Сом кручкі мне адрываў.

Раз закінуў быў я вуду
Ды пайшоў дадому спаць.
Думаў: доўга спаць не буду,
Заўтра рана трэба ўстаць.

Вось прачнуўся нацямочку
І, сабраўшыся, пайшоў.
Пахадзіў па беражочку,
Але вуды не знайшоў.

Так стаю я, ледзь не плачу—
Мо' сцягнуў хлапец які?
Але раптам вуда, бачу,—
Насярэдзіне ракі.

Я быў рад, што вуда цэла
І хутчэй у лодку сеў
Ды па вуду еду смела,—
Я дастаць яе хацеў.

Я за вуду, яна—ходу!
А бадай цябе агонь!
Ледзь не боўтнуўся у воду...
Сом вязе мяне, як конь.

Вёз ён, вёз мяне. Стаміўся.
Прыпыніўся пастаяць.
Я-ж за куст тады схапіўся,
Годзе, брат, мяне цягаць!

Блізка тут касілі хлопцы.
Я на іх давай гукаць,
Каб яны прыбеглі к лодцы,
Сома памаглі дастаць.

Ну і дзівіліся мы з сома,
Як дасталі ўжо з вады!
Я яго паважыў дома:
Быў ён ледзь не два пуды.

**КУШНЕР В.**

*В. Буковічы Уздзенскі раён.*

# МЫШКА





**НАРОДНАЯ КАЗКА.**

Малюнак Г. ЗМУДЗІНСКАГА.

— Мышка, мышка, дзе была?
— Далёка.
— Што рабіла?
— Кросны ткала.
— А што заткала?
— Кусок сала.
— А дзе падзела?
— Мышка з'ела.
— А дзе тая мышка?
— У норку паляцела.
— А дзе тая норка?
— Вадою заплыла.
— А дзе тая вада?
— Валы папілі.
— А дзе тыя валы?
— Доўбняй пабілі.
— А дзе тая доўбня?
— Чэрві патачылі.
— А дзе тыя чэрві?
— Куры паклявалі.
— А дзе тыя куры?
— Крумкачы пабралі.
— А дзе тыя крумкачы?
— На мора паляцелі.
— А дзе тое мора?
— Кветкамі зарасло.
— А дзе тыя кветкі?
— Дзяўчаты парвалі.
— А дзе тыя дзяўчаты?
— Хлопцы замуж пабралі.
— А дзе тыя хлопцы?
— На вайну пайшлі.
— А дзе тая вайна?
— На палях, у барах,
Там, дзе мох і сівец.
Тут і казцы канец.

*Запісаў Я. Г.*





# МАЕ ВЫХАВАНЦЫ

У студзені месяцы гэтага года я атрымала пропуск у Палац піянераў і акцябрат. Гэта быў самы шчаслівы дзень у маім жыцці.

Я вельмі люблю прыроду і працую ў прыродазнаўчым гуртку.

Калі я першы раз прышла ў гурток, дык Вера Міронаўна, наша кіраўніца, сказала, каб кожны з нас выбраў для свайго нагляддання якую-небудзь рыбу, птушку ці жывёлу.

Я спачатку не ведала, каго мне выбраць, усё ў гуртку мне падабалася—прыгожыя рыбкі, залатыя і звычайныя, сава, вожык, вавёрка, белыя пацукі, птушкі, уюны і іншыя жывёлы. Проста вочы разбягаліся, гледзячы на ўсё гэтае.

Нарэшце я выбрала белых пацукоў. У той час іх у нас было трое: тоўстая старая самка і двое яе дзяцей. Цікава было весці нагляданне за іх жыццём. Яны жылі ў скрынцы. Мы не баяліся іх, бралі ў рукі, а яны гэтак смешна пазіралі на нас сваімі чырвонымі вочкамі і варушылі вусікамі.

Аднойчы пацукі ўцяклі са скрынкі, схаваліся пад паравымі трубамі і ніяк не хацелі адтуль вылазіць. Спачатку выманілі адтуль аднаго маладога пацука, потым злавілі другога ў пастку. Дзверцы пасткі прыціснулі яму хвост і абадралі скуру. Першы пацук вельмі шкадаваў яго і залізваў яму хвосцік. Матка-ж доўга не выходзіла з-пад труб, але ўсё-ж такі злавілі і яе. За час жыцця пад трубамі яна здзічала і пачала кусацца. Вера Міронаўна загадала прыбіральшчыцы выкінуць яе на двор, бо небяспечна яе трымаць, можа пакусаць дзяцей. Прыбіральшчыца ўзяла самку і вынесла, а сама вярнулася ў палац. Але тая дагнала яе, кінулася на грудзі, схавалася пад паліто і пачала пішчаць, нібы просячыся не пакідаць яе.



Цяпер нашы пацукі жывуць у клетцы. Іх у нас ужо не трое, а дваццаць сем. Нарадзіліся маладыя. Прыгожыя, маленечкія звяркі, мы іх вельмі любім і добра даглядаем. Наш жывы куток хутка папоўніцца новымі жыхарамі. У нас будзе жывы медзвяжонак, малпачка і іншыя жывёлы, якіх прывязуць з Маскоўскага заалагічнага саду.

Заходзьце да нас, рэбята, у палац паглядзець нашых выхаванцаў!

**ТАНЯ ДЫЛА**

**вучаніца V класа 4-ай школы імя Кірава**

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

МАЙ 1937 г. № 5

ЦАНА 39 кап.





# ДЗЕД І МЯДЗВЕДЗЬ



1. ДЗЕД РЫБАК БЫЎ ЗАЎЗЯТЫ...



2. МЯДЗВЕДЗЬ ТАКСАМА ЛЮБІЎ РЫБКУ.



3. РЫБАКІ БАЧЫЛІ ТОЛЬКІ СОМА, І НЕ БАЧЫЛІ АДЗІН ДРУГОГА.



4. У АДНУ І ТУЮ-Ж ХВІЛІНУ РЫБАКІ КІНУЛІСЯ Ў ВАДУ ЗА СОМАМ.



5. ВОСЬ ДЫК СУСТРЭЧА!



6. ПЕРАПАЛОХАНЫЯ РЫБАКІ ЛЕДЗЬ УЦЯКЛІ АДЗІН АД ДРУГОГА.

Радактар А. ЯКІМОВІЧ — Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА — Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна — 15000 экз. — Зак. № 655. — Галоўлітбел № 310.